№ 2 (5) чэрвень 1922 год. Год II.

# МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ

Пэрыодычная часопісь беларускае моладзі



# ЗЬМЕСТ.

*Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы*
*Будзі сыноў сваей зямлі,*
*Над беларускай соннай нівай*
*Незгаслы сьветач распалі.*

*Янка Купала.*



# Да Матурыстаў

Прайшлі чатыры гады істнаваньня беларускае гімназіі, і ў працягу гэтага часу зроблены два выпускі матурыстаў. Дзеля недахвату беларускае вышэйшае школы, беларусы—матурысты змушаны былі разсыпацца па ўсяму сьвету, каб дабіўшыся вышэйшае асьветы, вярнуцца ізноў на бацькаўшчыну прылучыцца да грамады дзеячоў і разам з імі працаваць дзеля яе добрабыту.

У гэтым годзе дачакаліся новага трэцьцяга выпуску. Новая грамадка толькі што нарадзіўшайся інтэлігенцыі апынулася на раздарожжы, задаючы сабе пытаньні: што рабіць, куды ісьці, да чаго імкнуцца? Адказаў на гэтае пытаньне ёсьць шмат, але ня ўсе яны могуць быць прытарнаваны да вымаганьняў беларускае ідэі.

Вядома, што кожны з нас перш за ўсё павінен старацца здабыць вышэйшаю асьвету, каб узмацаваўшыся, пашырыўшы сваю веду, мог быць карысьнейшым як для грамадзянства, так і для бацькаўшчыны наогул. Але апрача гэтага, ёсьць яшчэ шмат заданьняў. Мы павінны памятаваць, што выйшлі мы

з вёскі, выйшлі з таго беларускага селянскага люду, які зносіў зьдзек і паняверку ў працягу вякоў, чакаючы лепшае будучыні, лепшага жыцьця.

І вось цяпер, калі вялікая рэвалюцыя на нашых вачох адзначыла цэлы рад незалежных гаспадарстваў, калі нашы суседзі пачалі будаваць сваё шчасьце на зямлі залітай потам і кроўю дзядоў нашых, ці палепшылась жыцьцё наша? Ці зьдзейсьніліся нашыя векавыя лятуценьні аб лепшай будучыні?

Пара ужо перастаць быць сьляпымі, пара аглянуцца навакол, азнаёміцца з праўдзівым жыцьцём і заглянуць ў цёмную несьвядомую вёску. Дзеля недахвату беларускае школы, якая давала-б сапраўдных сыноў сваей Бацькаўшчыны, нашы браты часта падаюцца уплывам чужацкай культуры, заходняй або усходняй.

І калі мы хочам, каб будучаму пакаленьню нашаму было лягчэй, калі мы хочам пазбавіць яго ад тэй драмы „дзьвюх душ,“ якую перажылі самі, то мы павінны ўзгадаваць яго так, каб сазнаньне свайго племя было для яго не няволяй, а радасьцяю і пыхай. Але дзеля гэтага трэба з першых гадоў зачараваць яго тэй велічавай красой, якую мы пазналі так позна, ўжо ў цяжкім пераломе моладасьці. Мы павінны перш за ўсё даць яму летапісь нашага люду, каб яно добра ўнікнула ў сутнасьць яго жыцьця. Каб з першых дзён свайго шляху яму відаць было, колькі моцы, праяваў крыецца ў народзе, колькі паслужыў братом і іншым пляменам.

Яно павінны відзць і прошлую і сучасную духовую творчасьць сваягo народу, і родныя пісьменьнікі не павінны для яго аставацца незнаёмымі іменьнямі.

Гэтыя абавязкі нам трэба ўзлажыць на сябе і стаць адпаведнымі за выхаваньне будучага пакаленьня.

Але покуль узлажыць на сябе такія абавязкі, трэба самім быць моцнымі, прыгатаванымі да гэтага; старацца ісьці згодна па аднаму шляху, цесна злучаныя аднэй дарагой нам ідэяй. Каб ня былотак,

што на аднэй старане будуць стаяць тыя, якія будуць старацца зьберагчы да дня будучага міжнароднага братэрства жывым і тагс брата, імя катораму беларус; а на другой, — тыя хто сьвядома альбо несьвядома вядуць яго да згубы і каторыя страцілі надзеі ці пажаданьне захаваць недатыкальным імя— беларус.

Справа тут можа быць ня ў спрэчцы партыі з партыяй; тут спрэчаюцца паміж сабой тэндэнцыя жыцьця і тэндэнцыя сьмерці.

Нас нацыяналізуе сама гісторыя. і тых хто ёй працівіыца яна раней ці пазьней пацягне за сабой. Але яны тады паплетуцца за ёй ў хвасьце, як зьвязаныя палонныя за калесьніцай церамогшага. Добра таму хто ў часе зразумее яе дух і пойдзе ў першых радох· А першым з першых павінен пайсьці той, у чыёй уладзе душа народа — народны вучыцель.

Усё гэта трэба кожнаму з нас разумець і помніць, каб ня быць здраднікамі сваей бацькаўшчыны і народу; заўсёды быць з ім у згодзе, каб рука з рукой дабываць лепшую будучыню і долю.

А дзеля гэтага, шукаючы новых шляхоў і паказваючы іх другім, трэба заўсёды трымацца селянскае думкі, пажаданьняў, мець цесны зьвязак з „родным карэньнем,“ з тэй селянскай сярэдзінай з якой мы выйшлі.

Захапіўшыся сваей беларускай справай адраджэньня мы не павінны быць асьлепленымі толькі ёю і пагарджаць справы другіх народаў, бо ход гісторыі паказаў што для пасьпешнага дасягненьня нашае мэты, абавязкова цесная і кантактная праца з усімі другімі нацыянальнасьцямі жывучымі ў нашым краі. Мы знаем што навакол нас ёсьць шмат такіх, якія не аддаюць сабе адказу ў праходзячых здарэньнях, якія пепрыхільна глядзяць на наш рух. Але мы пэўныя ў сваю моц і сьмела ідучы наперад да нашых векавых летуценьняў, знойдзеш гарачы водклік, а ў выпадку патрэбы і падтрыманьне, справядлівых і здрава мысьлючых людзей. Асабліва мы

зьвяртаемся да моладзі, якая зьменяючы сваіх бацькоў, будзе тварыць новае жыцьцё, і папярэджываем не паўтараць старых памылак.

Год 22 разам з разьвіцьцём нашага руху прынёс шмат цяжкіх хвілін. Чорныя хмары не раз навісалі над намі і усей сілай сваей думалі наваліцца на нас, не раз брудныя рукі ўрываліся ў нашы дамы, нясучы з сабой разруху. Але пад бязлітасным уціскам лёсу мы паступова выкоўвалі ў сабе яшчэ большую сілу волі, якую можна зламаць — сагнуць ніколі.

Народ наш які ў працягу тысячу гадоў вёў барацьбу за сваю палітычную, а с канца XVI в. і за сваю духовую незалежнасьць, народ які даў на зарэ сваёй гісторыі князя-чарадзея, а ў працягу многіх вякоў даваў культурную страву, больш сільным фізычна ліцьвінам, гэты народ не застановіцца ні перад якімі ахвярамі: А мы, сейбіты народнае ідэі, павінны паклясьціся, што вечна будуць жыць у душах нашых гэтыя „родныя карэньні,“ што толькі часова мы цяпер адарваліся ад роднай вёскі, але пройдзе 4-5 гадоў і мы ізноў апынёмся сярод родных палёў, нясучы, у пакуль што цёмную вёску, праменьні сьвета — веды.

Грыш—Ка.



# Да Моладзі.

Шчасьліва усьмяхаецца „Доля“ нашай старонцы. Хто чуе гэткі сьмех, ён раптам сам сьмяецца з Доляй. Сьмяюцца беларускія вочы... Нешта дзіўнае йграюць струны ў беларускай душы... Парою такі говар да моладзі прынясецца: „Вы маладое пакаленьне, шчасьлівейшае за ўсіх тых, каторыя ня бачучы яснасьці сьветлага дня, ў цемры сваё жыцьцё канчалі.“ Ї шчырая праўда! Мы ёсьць шчасьлівейшыя. Сэрца страсецца, калі думкамі заглянеш у далёкую мінуўшчыну.

Нашы папярэднікі жылі з горкай нядоляй пад чужацкім ярмом. Цяпер, калі паўстала Маладая Беларусь, яны сьпяць неабуджаным сном. Які жаль!.. Яны ня чуюць тых вольных песен, што сьпявае беларускі народ, яны не сьвяткуюць тых вялікіх дзён, калі сьвяткуе зямля з сваімі дзяцьмі, яны спачываюць у глухім падзямельлі... Іх зьмяніла новае пакаленьне. Мы жывем! Мы весялімся!.. Нам патрэбен толькі звон, каб яго магутным рэхам разбудзіць неразбудажаных, ускалыхнуць засыпаючых.

Моладзь! У нас няма звона, так няхай, наш прыклад будзе падобным да звона. Падаймо адзін другому рукі, прымемся за працу!
Хай хто з нас воляй дужэйшы і духам мацнейшы ахвяруе свае сілы ў падарунак „Матцы — зямлі“ Яна-ж запраўдная наша любячая маці! Столькі ўзгадавала, ўзрасьціла дзяцей! Столькі іх паставіла на прывольную дарогу, і нам маладым адчыняе яшчэ дзьверы ў сьвет. За гэта ўсё яна, бязумоўна, чакае падзякі, хоць не вялікай, бо добра ведае, што мы яшчэ духам крэпнем, але шчырай. Чым-жа ёй падзякаваць можам? а вось чым: Беларуская Моладзь! Шануймо сваю родную мову, — гэта аружжа нашай зямлі. Станем у цеснае кола, каб ніхто ня здоляў разагнаць нас па чужацкім загонам. Будзем рыхтавацца да будучай грамадзянскай працы, будзем з верай глядзець у ясную дальчыню!.. Там яшчэ адгукнуцца і загаманяць з намі маладые душы і мы злучыўшыся з імі выйдзем на кліч нашага песьняра Янкі Купалы.

„За родную мову за родны народ
Адважна і сьмела ўпярод“

Л. Н.

# На парозе жыцьця.

Праймчаліся гады... Быццам нейкі дзіўны сон, пранесьліся і згінулі ў вечнась лятуценьні дзяцінства, першыя надзеі, боязныя жаданьні, ўспаміны якія так моцна зьвязаны з школай і клясовымі лаўкамі. Колькі пекнага, цёплага, прыемнага і чыстага перадумана было на гэтых лаўках, колькі незвычайна блізкага, мілага засталося ззаду! Як усё дарагім і зразумелым здаецца цяпер загінуўшае, навет тыя хмурыя хмаркі і праляцеўшыя лятуценьні, засмучаўшыя часамі ціхія дні моладасьці.

Цяпер мы стаім на парозе жыцьця: перад намі разчыняецца вялікі, цярністы, таемны сваей жудаснай няпэўнасьцю, шлях. Мы ня ведаем, што чакае нас у будучыне? Мы ведаем толькі, што не адны маладыя сілы, лятуценьні і надзеі разьбіліся як хвалі аб вострыя каменьні, якіх так шмат на шляху. Мы ведаем,што шмат лепшых парываньняў і сьветлых імкненьняў загінула ў няроўным змаганьні з няпэўным лёсам і, што шмат рук апусьцілася ў бязсільлі пракласьці шлях працы, высока гдзе ў яскравасьці сонца іклічуць нас да сябе, пакінутыя мірам вобразы праўды .братяй любві. Але мы не пакінем працы і бодрасьці духа Мы сьмела пойдзем на змаганьне з жыцьцём, мы адважна будзем нясьці свой штандар, мы будзем змагацца за шчасьце людзей, за зьдзейсьненьне на зямлі вялікай ідэі— агульнай любві. Мы будзем змагацца за нашых братоў, за і ўсіх абяздоляных і забытх, за тое, каб нябыло сваркі рожніцы, каб увесь сьвет і ўсе людзі ўвасаблялі сабою адзіную вялікую поўную браняй любві, сямейку.

Хай мы загінем, нявытрываем у змаганьні за ідэю, але ўцехай будзе вера ў тое, што раней ці пазьней нашы будучыя пакаленьні давядуць да канца пачатую справу і што яны даб'юцца агульна-людзкага шчасьця для ўсяго сьвету заліваючагася цяпер у крыві і сьлёзах, а дабіўшыся парадуюцца за нас...

І настане тады вялікае сьвята — сьвята на ўваскросшай зямлі.

Матурыстка **Г. Акушчанка.**



*Гэй наперад, покі сэрца*
*Бьецца рвецца на прастор,*
*Годзі млеці ў паняверцы*
*Гэй да сонца! гэй да зор!...*

*Янка Купала.*

# Самі багі.

Уперад, гэй, багі мы самі
Ба мы з нічога ўсё тварым
З дарогі прэч, ці ўсе за намі
Тварыць прагненьнем мы гарым.
Даўно мінулі годы тыя,
Як богам быў агонь, вада
Пад нівай ройсты ўжо сьвятыя
Прычэплен гром да пяруна.
Цяпер няведамых вось богаў
Праходзіць перад намі век
Пачэзлі з нашых ўсе дарогаў,
Зрабіўся богам чалавек.
Так ўперад, гэй, багі мы самі
Ба ўсё з нічога мы тварым,
З дарогі прэч, ці ўсе за намі
Агнём мы творчасьці гарым.

I. Дварчанін.

# Соцыяльны элемэнт у творах Янкі Купалы.

Галоўнай адзначаючай рысай ува ўсіх творах Купалы, гэта ёсьць пераважаньне соцыяльных элемэнтаў над



нацыянальнымі. Для таго, каб гэта зразумець, трэба паглядзець пры якіх варунках праходзіла ўсё ягонае жыцьцё, якія ўражаньні выняс ён з пары дзяцінства, а галоўнае трэба заўважыць той час, калі складаўся ўвесь яго сьветапагдляд. З біаграфіі яго ведаем,што арадзіўся ён у Меншчыне, у беднай работніцкай сям'і. Яго бацькі самі абраблялі невялічкі кавалак зямлі, і то ня іх ўласны, але ўзяты ў арэнду. З чыста эканамічных матываў ня магло гэтае даравітае дзіця атрымаць сыстэматычнае адукацыі

Украдкам прыходзілася яму праглядаць кніжкі, чытаць якія ён навучыўся пры помачы сваей няньці. Адгэтуль бачым, якое ўражаньне з самага раньняга дзяцінства павінна было рабіць гэтае паўгалоднае, жабрацкае жыцьцё на псыхолёгію хлопчыка. Але яшчэ большае ўражаньне зрабілі на яго 1904-5 гады, і чытаньне зьявіўшыхся тады беларускіх кніжак і праклямацыяў рэвалюцыйнага характару. Пасьля гэтага яму цяжка было ладзіць з сваімі гаспадарамі, ў якіх ён служыў простым работнікам-батраком, і ён пераходзіў з аднаго мейсца на другое, паўсюды ўглядаючыся ў соцыяльныя адносіны і глыбока ізучаючы іх. Адгэтуль відаць, чаму галоўнымі матывамі яго лепшых твораў, як напрыклад. „Раскіданае гняздо“, „Жалейка“ і „Адвечная песьня“ зьяўляюцца соцыяльныя пытаньні. Прачытаўшы прадмову да „Жалейкі“, можна адразу зразумець, што паэт перш за уеё будзе гаварыць аб нядолі, а пасьля аб няволі.

„Грай мая жалёйка,
„Пей як салавейка!
„Апявай нядолю,
„Апявай няволю,
„І грымі свабодна,
„Што жыве край родны!“.

Недарма гэты зборнік названы «Жалейка». Ужо калісьці Багушэвіч гаварыў, што з пад яго дудкі выходзяць пекныя, але толькі нудныя песьні. У Купалы мы амаль не знаходзім, а ніводнае вясёлае ноткі, а ніводнае жыцьцерадаснае песьні: адзін агульны стогн, плач, смутак-напаўняюць, „Жалейку“. У невялічкіх, але мастацкіх песьнях выліў ён усю тугу сваёй душы і ў адзін той самы час пратэст проціў такой будоўлі жыцьця, калі „поруч з галітвой ходзіць роскаш і багацьцё; разам з людзкімі слёзамі мешаюцца панскія вальцы, льюцца вясёлыя галасы песень; грыміць музыка з панскага саду; разом з мужыцкім потам цякуць дарагія віна“ (Тарас Гушча). Паэт плачэ разам з сваімі песьнямі, якіх ён называе „смуткаў маіх дзеці“. Думка аб цяжкім палажэньні роднае бацькаўшчыны, роднаго беларускаго народу ні дае паэту спакою, і ўсюды, вясной на траўцы і на сьнягу зімой, яны неадступна йдуць за паэтам і здаецца яму, што вечна будуць гэтыя песьні жыць у яго душы. („К песьням“). Зусім проста напісана яго жалейка, але глыбокае ўражаньне пакідае яна ў душы чытача, дзякуючы таму мастацтву, з якім яна напісана. Перад намі беларус-селянін, „бацькам каторага быў голад, а маткай бяда“. Жыцьцё яго зложылася так, што ён корміць ўвесь сьвет, а сам есьць мякіну. Благое жыцьцё мужыка, ніхто яму ня скажэ ніколі добрых ласкавых слоў, ніхто ня дасьць яму ў бядзе ні хлеба, ні дроў на зіму. На плячох

у яго абарваны лахман, ногі скручаны цьвёрдай лазой, і „за кроў і за працу сваю, холад, голад і нэндзу цярпіць“. У сваей творчасьці ён напамінае расейскага песьняра Некрасава, які калісьці напісаў:

„Укажи мнѣ такую обитель,
„Гдѣ-бы сѣятель наш и хранитель,
„Гдѣ-бы русскій мужик не стонал“.

Але разам з жальбой на цяперашні стан селяніна ў гэтай самай „Жалейцы“ ёсьць і другія матывы, матывы, якія ён нам даў пасьля ў сваім лепшым творы „Раскіданае гняздо“. Мы знаходзім ў ім проста прароцкія словы: ўжо тады ён гаварыў, што:

„На сьвет многа прыдзе бяды,
„Бо мужык за крыўду сваю адамсьціць,
„Сьвіньням будзе крыві не набраць!
„Адамсьціць аж зямля задрыжыць,
„Аж віхры зашумяць, загудзяць“ („Пажалей мужыка“).

Ён прадсказаў той час, калі і мужык патрапіў сказаць, што:

„ . . . і ён чалавек,
„Што й яму гараваць надаела ўвесь век“
(„З песьняў беларускага мужыка“).

У другім творы „Адвечнае песьня“ паэт малюе нам жыцьцё селяніна ад першага дня нараджэньня да самае магілы. Яшчэ мужыцкае дзіця ў калысцы, а бяда ўжо кажа што:

„Во-тутка маё панаваньне,
„Са мной ён і ляжэ і ўстане.
„А холад і голад будуць яму
„Адвечныя казкі плясьці“.

Запраўды ўсё яго жыцьцё, гэта ёсьць адна мука, гэта некончаючаяся, цяжкая барацьба за кавалак чорнага, чорствага хлеба, жыцьцё бяз радасьці, бяз сьмеху, поўнае сьлёзаў і вялікага гора. Малюецца яго жыцьцё на службе, як ён босы, ў абадранай вопратцы пільнуе статак. Ня гледзючы на труднасьць працы, ня гледзючы ні на холад, ні на голад, маленькі пастух лятуціць аб лепшай долі, ён гаворыць, што:

„Як у сілачку ўбяруся, змагу ўсё.“

Праходзіць некаторы час—дзіцянё робіцца дарослым чалавекам. Мы далей бачым яго, як ён спраўляе сваё вясельле. У той час, як ўсе пьюць і весяляцца, хор пяе:

„Рэдкі сьмех і пацехі,
„Часты сьлёзы і бяда“.

Запраўды прадказаньне хора збылося. Мужык ня вытрымлівае жыцьцёвай барацьбы: за надта многа няшчасьця сустракае яго і ўсёй сілай абваліваецца на мужыка. Бываюць момэнты, калі нават німа насеньня для пасева:

„І сам сеяць я рад,
„Ды, як бачыш, с каляд,
„Усе выбраў да дна
„Ой, Вясна! Ой, Вясна!“

Лютае жыцьцё прымушае яго шукаць забыцьця ў гарэлцы, і ён пакінуўшы ў хаце хворую жонку і дзяцей, ідзе ў карчму, каб хоць на міг забыцца аб гэным пакутным жыцьці. Гэтак праходзіць яго жыцьцё ў адным толькі вечным змаганьні за кавалак хлеба. Малюнак ня зьменяецца і пасьля яго сьмерці, і калі цень мужыка пытаецца, „што чуваць на зямле?, як жывецца цяпер мужыку?“, доля апавядае яму аб судзьбе яго сыноў: адзін цягне, як калісьці „адвечную песьню, покуль ня зваліцца з ног, другі ў турме, трэцьцяму на фабрыцы машына адсекла руку і г. д. Цень ізноў уваходзіць у магілу, дзеля таго, што яна ёй прыемней, чымся людзі і сьвет.

Трэцьці яго твор „Раскіданае гняздо“ ужо кажа ня толькі аб сацыяльных несправядлівасьцях, але ўжо ўсказвае шлях да ратунка. Напісаў Купала гэты твор ў 1913 г., значыцца не задоўга да вялікае рэвалюцыі. Сюжэт узяты з рэальнага жыцьця: сям'я Зябліка праганяецца з насіжанага мейсца панічом-гаспадаром. На гэтым грунце, на грунце „раскіданага гнязд“ стаіць і ідэя драмы. Чыста сацыяльным тыпом зьяўляецца Лявон Зяблік, у каторым цяжкае жыцьцё выпрацавала такое пакорство лёсу, што ён адважваецца скончыць з сабой, каб у магіле знайсьці сабе супакой. Але малады Сымон ня вытрываў, яго душу ўскалыхнула несправядлівасьць соцыяльных адносін і ён жастока памшчае панічу, падпаліваючы яго маёнтак, і пры сьвеце пажару ідзе „на вялікі сход, па Бацькаўшчыну“. Гэты малюнак ёсьць сымвалічны. Купала паказывае на тое, што да адражэньня народу трэба йсьці пры сьвеце пажара ад панскіх маёнткаў, другімі словамі: да нацыянальнае ідэі можно прыйсьці толькі пры сьвеце клясовае барацьбы. Трэба яшчэ адзначыць, што драма гэта мае нават аўтабіаграфічнае значэньне: сям'я Зябліка нагадывае нам жыцьцё сям'і самаго Купалы, і магчыма, што ў галоўнай асобе Сымоне, паэт даў шмат з свайго асабістага характару, шмат з сваіх думак і паглядаў. У гэтай драме паэт нарэшце разсек гэты гордзіеў вузел, які вісеў над усімі яго ранейшымі творамі: ён зразумеў, што вінаватым ў няшчасьці зьяўляецца ня толькі несправядлівыя соцыяльныя адносіны, але, галоўным чынам, нацыянальная няволя беларускага

народу. І тутака, можна сказаць, першы раз у Купалы слова „Бацькаўшчына“ была ясна і голасна заяўляна вуснамі Сымона—змаганьніка за нацыянальнае адраджэньне Беларусі.

М. Каплан.

# Што рабіць?

Зусім ня так даўна гадоў 20-25, невялічкая грамада адраджэнцаў і немагла думаць, што з кінутых імі праменьняў у народную цёмру, так хутка ўздымецца полымя пажару.

Галаўнейшымі заданьнямі нашых папярэднікаў, нат сучасных беларускіх дзячоў, была нацыянальнае асьведамленьне народу. Каб гэткім парадкам вырваць яго з ассэміляцыі чужацкай культуры. Гібельная рэлігійная палітыка, праваслаўны—расеец, каталік—паляк, затрымоўвалі працу асьведамленьня, робячы падчас, немагчывай; аднак народ наш ужо большай часткай пераканаўся ў ашуканстве і пакідае свае варожые адносіны да інаверцаў — сваіх жа братоў. Асабліва хутка пашыраецца нацыянальная сьвядомасьць сярод моладзі. Мы чуем з аднаго, то з другога боку нашае Бацькаўшчыны запытаньня: — Што рабіць? на якое і пастараемся адказаць калі не ваўсіх пунктах, дык хоць галаўнейшых, адначасна як для моладзі вясковай, так і, мястовай.

Не прыходзіцца казаць аб абавязках кожнаму з нас, бо трэба зьвяртаць увагу і лічыцца з тымі абставінамі якія спрыяюць працы. Безумоўна, з тых каму гэта рабіць лягчэй, вымагаецца больш і наадварот. Аднак усюды патрэбна еднасьць моладзі, без якой праца наша ня будзе прадуктыўнай і не прывядзе да рэальных вынікаў. Моладзь павінна арганізавацца ў так званыя культурна-прасьветныя гурткі, якія ў свой чарод павінны мець зносіны з іншымі беларускімі гурткамі і установамі. Тыя матэр‘яльныя перашкоды, якія спатыкаюць на першым пачатку кожны наш гурток, могуць быць зьніштожаны зборамі, або ахвярамі ад ладжаных вечарынак, спэктакляў і інш. Закласьці бібліатэку, гэта ёсьць першы і галоўны абавязак гуртка, дабываючы кнігі на зробленыя грошы, або на зложаныя сяброўскімі ахвярамі.

Войны чужынцаў на нашай зямле нішчуць беларускі край, народ, памяткі, а гэткім парадкам губляюцца дарагія для кожнага народу этнаграфічныя рысы. Вось дзеля чаго

кожны з нас каму як зручней, павінен старацца зьбіраць скарб нашае народнае творчасьці (песьні, казкі, прыказкі інш.) і мяркаваць, каб ён трапіў у друк, хаваючы іх гэткім парадкам для будучых пакаленьняў беларускага грамадзянства. Праца аднак не абмежваецца толькі духовым разьвіцьцём сябе і грамадзянства, а шырыцца далей, як напр. спартыўныя гурткі, рожные арганізацыі і інш. Можна былоб шмат і яшчэ чаго адзначыць для працы, але здаецца, што гурток моладзі і сам выявіць сабе напрамак працы ў дальчыні.

Дык хай-жа кожны з нас, хто чуе сябе моцным і здольным да працы, аддасьць усе сілы свайму шматпакутнаму народу, каб зрабіць у будучыне яго жыцьцё лепшым, а долю шчасьлівейшай.

N.

Гэрцэна

# Кніга.

Кніга — гэта духовая спадчына ад аднаго пакаленьня другому, рада старыка, што ладзіцца ў магілу, дзяцюку што толькі пачынае жыць. Усё жыцьцё чалавецтва пасьледавацельна пакідала свой сьлед у кнізе. Плямёны, людзі, дзяржавы гінулі, а кніга аставалася. Яна расла разам з, чалавецтвам, ў яе выкрысталізоўваліся ўсе навукі, якія захоплівалі чалавечы розум, усе парывы, прымушаўшыя хваляцца сэрцы; ў ёй упісана гэная вялізарная споведзь збурлівага жыцьця чалавецтва, гэная вялізарная аўтаграфія, якая называецца Сусьветнай Гісторыяй. Але ў кнізе ня толькі адна мінуўшчына; яна становіць той дакумэнт, як ўводзіць нас у ўладаньне цяперашчынай, у ўладаньні ўсенькай сумай праўд і высілкаў, выкрытых мучэньнямі аблітых часамі крывавым потам: яна — праграма будучыні.

Дык шануйма кнігу!

Пераклад А. Н.

*Памятайце аб бібліатэцы!*
*Ад кожнай ахвяры як грашмі, так і кніжкамі залежыць лепшая будучыня нашага народу!*

## Вецер.

Вецер урваўся праз весьніцы,
Пыл па двары крутануў,
„Вер, што жаданае здзейсьніцца“!
Ласьцячы вуха, шапнуў;
Шпаркі і сьмелы ў захапленьні
Лёгка праскочыў праз плот;
Штосьць зашумеў між канаплямі,
Борзда мінуў агарод;
Там-жа дзе жыта з пшаніцаю
Сьпеляць свае каласы
Блутаў, віхрыўся дурніцаю
І перабег на аўсы;
Лесу-ж пабачыўшы цёмнага
Хмура — задумны аблік,
Быццам спужаўся таёмнага,
Сьцішыўся, зьменшыўся, зьнік.

Ул. Ж.



## Вясельле і сон.

Быў вясёлы вяснавы дзень. Сонейка так прыгожа асьвятляла зямлю. Людзі гулялі на дварэ ўздыхаючы сьвежае паветра. І так люба, так прыгожа было, што здаецца ніколі не растаўся-б і не ўвайшоў-бы зноў у хату.

Паветра было сьвежае, пялі птушкі, разнасіўся ўсюды прыемны красачны пах. Гэта быў адзін дзень з вяснавых пекных дзён. Нацешыцца ня можна было ім. Другі дзень

ужо не такім вясёлым паказаўся як першы. Ня так было весела, ня так пахла краскамі, ня так шмат вясёлых, свабодных птушачых галасоў разнасілася ў паветры. Людзём зрабілася сумней. Нацыйшоў і трэці. Што дзень, то ўсё сумней і сумней станавілася жыць людзём у тэй старане, што дзень, то ўсё больш і больш заціхала ўсё... Нарэшце зусім заціхла. Немагчымым зусім сталася жыцьцё людзям. Перастала так ласкава сьвеціць сонейка. Студзёна зрабілася наўкола. Паўходзілі яны зноў у свае маленькіе хаты, — не гаворачы і не ўспамінаючы аб вясёлай прошласьці. Пазасыпалі людзі ад такой смуты ў гэтых хатах. Спалі доўга,але прачнуцца ніяк не маглі. Праходзілі гады, дзесяткі гадоў, а народ (той стараны) ўсё спаў непрабудным сном. І колькі разоў прабавалі як небудзь разбудзіць яго, але ён як-бы нічога ня чуючы,—усё спаў. Нарэшце адзін гаспадар прачнуўся. Сумна стала жыць яму аднаму. Збудзіў ён сваю сямью і сабраўшыся ўсе разам цэлай сямейкай,—пайшлі яны будзіць другіх. Шмат прыйшлося пацярпець, патраціць сілы і часу на гэтую працу, але не дарма. Пачуўшы моцны кліч „Прачніцеся, вас чакае вялікая праца і лепшая доля"!

Адныя — адразу, з вялікай ахвотай адазваліся на яго, ўсталі і даўно ўжо без'упынна працуюць на сваёй цярністай ніве. Другія—хаця і пачулі гэны крык, не зьвярнулі, і ня хочуць зьвяртаць ніякае ўвагі -- засталіся ізноў спаць тым-жа непрабудным сном. Але мы ўсё-ж не пакідаем надзеі і працы, можа і ня так хутка, але ўсё-ж разбудзім усіх дагэтуль яшчэ спячых сваіх братоў,—сыноў сваёй роднай старонкі. А тады пачнем разам з імі працаваць — творачы адно незалежнае і непадзельнае, жывое і вясёлае гаспадарства. Ажыве народ. Зажывуць ўсе такім-жа вясёлым і сьветлым жыцьпём. Ізноў так-сама весела і галасна запяюць птушкі.

Вуч. 3 кл. М. П.

## Вясна на чужыне.

Сьнег зьнікае... Сустракаюць маладую вясну...
Сонца грэе, абуджае сьвет ўвесь ада сну.
Птушкі імкнуцца, супроць волі, да сваіх краін,
„Час да хаты, час" —
Сьпеў чуваць адзін.

Кіну смутак і маркотну, аж на ніцы лозы,
У вечар гэты, вечар траўня, вечар нецьвярозы.
Вольны вецер я паклічу. як пяюць наўкола:
„Час да хаты, час,
Жыцьця майго золак“...
З ветрам, яснай бліскавіцай ў небе паляцім,
Думкі, сэрца, кроў у жылах — ўсё мы адрадзім.
Толькі крыльля мне патрэбны, крыльля мне, хутчэй!
„Час да хаты, час,“ —
Рвецца гук з грудзей...

**Уладзімер Дубоўка.**

* * *

Недзе далёка, далёка віталі думкі.

Дзіўныя сьпевы напаўнялі паветра і ціха адгукаліся ў душы... Поўны месяц спакойна паглядаў на зямлю і здавалася, што ён адзін ведаў вялікую тайну жыцьця. Аб чымсь-ці гаманілі дрэвы, ласкава вітаючы сваімі галінкамі, срабрысты, чысты як сьлёзы сьвет чараўніка-месяца. Лёгкі ветрык шумеў, прабягаючы над зямлёй і, нешта прыемнае, нашэптываў траўцы, якая, як-бы стыдаючыся яго пацалункаў, нізка прыгіналась да сваей роднай матулькі-зямлі. А вольны ветрык, свавольна, як малое дзіця, весела бяжаў ізноў далей, каб пасьпець усім разсказаць пра сваю радасьць жыцьця.

Толькі зоры, пекныя як вочкі анёлаў Божых, сумна пазіралі на зямлю; аб нечым дарагім, аб даўно, даўно згубленым шчасьці і аб валікім каханьні людзей, гаварылі яны.

Я прыслухоўваўся, і ў чароўных сьпевах прыроды, чуў адзін радасны, сьветлы гімн Богу. Але чым далей, тым больш нейкі няведамы жаль пранікаў у душу.

Я думаў пра людзей.

Не, штосьці гаварыла ў вамне:ілжэць чалавек, калі кажа, што здабыў ён прыроду. Ніколі не дасягнуць яму да таго харства і не пачуе ніколі гэтай музыцы ў жыцьці сваім. Ня быць яму Богам.

Прыпадкова, як тая падаючая зорачка, прамільгнець чалавек над зямлёй, каб згінуць у цёмную вечнасьць. А месяц ізноў будзе так сама спакойна і ласкава асьвятляць сваімі косамі зямлю, каб быць разам з ею ў вялікім сьвяце прыроды.

Я глядзеў на неба і цяжка рабілась у душы. Больна было за братоў сваіх... За шырокае як мора зло на зямлі,

за каханьне, што аддалі на зьдзек. Чаму німа вас, пакрыўджаных, зьневажаных лёсам людзёй сярод гэтага вялікага сьвята Бога? Чаму ня чутны галасы вашы ў пекнай і магутнай гармоніі сьпеваў? Дзе хараство ваша?.. Дзе і куды раскідалі вы шчасьце сваё?.. Усё маўчала, і толькі цёплы ветрык ускалыхнуў кусточкі і ізноў няпрыкметнна схаваўся.

А думкі нясьліся далей...

Я ўгледаўся ў неба, і зоры, і чым глыбей, тым спакайней рабілася ў душы. Чароўныя гукі ўсё мацней напаўнялі зямлю і звалі да волі і шчасьця. Хацелася забыцца і падняцца высока, высока да зорак...

Зусім мімавольна ўспомніліся словы пісьменьніка: „Услухайцесь, унікніце ў прыгожасьць жыцьця дрэваў і з глыбіні гэтага пачуцьця, вынясіце моцны заклік, — быць пекным, сьветлым і мудрым!

Я думаў, і гордасьць, вера, у сябе і чалавека ўздымалася ў душы; ўспомніліся людзі, зьневажаныя, бяздольныя, што забылі Бога і сьвятыя словы каханьня.

І вялікае жаданьне памагчы ім, асьвяціць пацёмкі жыцьцёвага шляха, запаліць агонь праўды і радасьці ахплівала мяне.

Недзе далёка, ў лятуценьнях, я чуў як прыгожая, магутная песьня Чалавека-Бога грыміць над зямлёю і залівецца са сьпевам прыроды...

Хацелася жыць, змагацца за волю і шчасьце!

# ШЭПТЫ НОЧЫ.

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы  
Калі кладуцца на кветкі росы,  
Губляе месяц між цэмры косы  
Як быццам срэбрам праліцца хоча...  
Калі з душою душа гавора  
Аб вечных болях, аб вечных муках  
І пад уплывам бязьмерным гора,  
Губляе голас у ночных гуках.  
Калі здаецца, што зараз думы  
Пазнаюць тайну жыцьця і Бога  
І пойдуць новаю дарогай,  
Калі сьмяюцца тапалёў шумы,  
А сэрца плача і сьмерць прароча,  
Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?

Н. А.

# Крыху аб спорце.

Прыйшла вясна, а разам з ёй паўсталі ў віленскае беларускае моладзі, закінутыя праз зіму, думкі аб стварэньні спартыўнага гуртка. Не прыходзіцца казаць аб карысьці такога гуртка, а скажам толькі некалькі слоў аб цяперашніх паглядах пануючых у гэтым напрамку сярод моладзі.

Гледзячы як арганізуецца моладзь польская, украінская, расейская, ангельская і др., беларуская моладзь ня можа заставацца індэфэрэнтнай да праяў працы сваіх равесьнікаў. Моцная мо' толькі духова, яна летуціць аб тым часе, калі і ёй будзе магчымасьць разьвівацца фізычна. Ужо ня раз рабіліся паступовыя крокі ў гэтым напрамку, і ў гэтым годзе можна было спадзявацца, што праца прывялаб да рэальных вынікаў, бо за працу ўзяўся запраўды адданы сваёй справе п. Якубецкі. Усё-ж такі рожныя перашкоды спатыкаючыеся на гэтым шляху, не спыняюць думку арганізацыі, а толькі часова абмежоўваюць. З'яўляюцца пляны закласьці беларускую футбольную каманду, купіць гімнастычныя прылады, або рэчы для гульняў. Добра было-б, каб моладзь наша не закінула гэтых плянаў на будучыню, а парупілася з'дзейсьніць як мо' хутчэй. Арганізацыя спартыўнага гуртка ёсьць справа вялікай вартасьці, і трэба прыкласьці ўсе стараньні, каб выйсьці ў сьвет грамадзянамі моцнымі ня толькі духова, але і фізычна.

N.

# Бібліяграфія.

„Голосъ Молодежи" часопісь вучнёўскае моладзі гімназіі „О. Р. З." за травень месяц 1922 г. № 2

Невялічкае, але багатая па зьместу часопісь дае, магчымасьць зразумець чытачом, што і тут нешта жыве дыхае. З перадавіцы відаць, што мэтай часопісі ёсьць аб'еднаньне ўсей вучнёўскай моладзі, дзеля супольнай прадуктыўнай працы. Аднак адныя думкі аб а'еднаньні не здавальняюць моладзь і відаць рабіліся ў гэтым напрамку паступовые крокі (нпр. выданьне супольнае часопісі „Зьвеньня") праўда не прывёўшыя да рэальных вынікаў. Шмат пекных эскізаў даюць магчымасьць зразумець вучнёўскія заняткі і настроі, не чужацкія нават беларускай моладзі. Беларуская вучнёўская моладзь, заданьні якой адчасткі зыходзяцца бліска, ня можа непажадаць найхутчэйшага дасягненьня лучнасьці моладзі.

N.

# ХРОНІКА.

## Красавік.

18. Адбылася вечарына бацькоўскага камітэта І В. Б. Г. ў салі гімназіі. Вучні згулялі драму Ф. Аляховіча „Дзядзька Якуб“.

23. Беларускія артысты згулялі „Лес Шуміць“ Караленкі:, інсцэнір. Ф. Аляхновіча.

30. Зборка па вуліцам Вільні на карысьць беларускага прытулку. Сума дасягла 347.697 мар.

## Травень.

2, Чытаньне навейшага твору Янкі Купалы. „Слова а палку Ігара“ пераложанага з старой на сучасную беларускую мову.

16. Пачатак выпушчальных экзамінаў у І В. Б. Г.

21, Лекцыя п. Луцкевіча ў Бел. Драм. Гуртку на тэму: „Палітычны напрамак беларускага грамадзянства“.

25. Першая экскурсія группы віленскае беларускае моладзі ў Вэркі на Зялёнае возера.

28. Лекцыя кс. Станкевіча на тэму: „Пачатак беларускае нацыі і яе самабытнасьць“

## Чэрвень.

4. Адбылася вечарына, ладжаная гуртком белар. кабет, з багатым канцэртным адзелам.

5. Выйшаў 2-3 нумар часопісі беларускіх студэнтаў „Наш Шлях“ цана 200 мар. Рэдакцыя і адмін. Віленская вул. № 12.

14. Канец заняткаў у І Віл. Б. Г.

16. Уступныя экзамены у І Віл. Бел. Гімн.

17. Канец выпушчальных экзаменаў. Беларускую Гімназію скончылі на атестат сьпеласьці беларусы: 1) Ганчарова Надзея 2) Грышкевіч Вінцук. 3) Дзехцяроў Кастусь. 4) Корж Уладзімір. 5) Ігнатовіч Міхал. 6) Ліхадзіеўская Ганна. 7) Макоўскі Вячэслаў 8) Капацэвіч Балеслаў. 9) Малевіч Аўгень. 10) Малафеева Зінаіда. Апрача вышэй азначаных беларусаў, Беларускую Гімназію скончылі 27 чалавек іншых нацыянальнасьцяў.

25. Акт—вечар матурыстаў І Віленскае Бекарускае Гімназіі ў салі гімназіі. На перарobленай сцэне вучні згуляюць «На папасе» абразок Янкі Купалы.

# ЖАРТЫ.

## Выгадныя калёшы.

Вучыцель. — Зьнімі калёшы, яны перашкаджаюць дыханьню скуры.

Вучань. — Мае не перашкаджаюць, пане вучыцель, яны ў дзірках.

## Пэўная мара.

Пан. — А ці ведаеш ты, колькі ў цябе авечак?

Пастух. — Не; паночку, ня ведаю.

Пан. — Дык як-жа ты даведаешся, калі ў цябе зьгіне авечка?

Пастух. — А тады, панок, мяне аддубасіць той, чыя авечка зьгінула.

---

(Цётка да свайго малога пляменьніка): „Антыподы — гэта людзі, каторыя ідуць спаць тады, калі ўжо мы устаём ад сну“

Пляменьнік. — Значыцца і мой брат студэнт, так сама антыпод?

---

Вучыцель. (да вучняў): „Скажыце, чым вядом нямецкі пісьменьнік Клопшток?

Вучань — „Тым што яго ніколі ня чытаюць.

---

Вучыцель. — Вось мы спаткалі цытату: „Бываюць у жыцьці чалавека імгненьні“, хто гэта сказаў“?

Вучань.—„Валленштэйн, у другім акце сваей сьмерці“.

## Лёгіка.

Калі-б ня было бровару, ня было-б піва, ня было-б піва, ня пілі-бы так многа, а значыцца ня былі-б гэтак лёгкадумны і не кідалі-бы грашыма; мелі-бы грошы, былі-б багаты, дык маглі-бы піць яшчэ болей піва.

---

Матка. (да сына) „Хутка твае імяніны, і я хачу зрабіць табе прыемнасьць, але раней мне трэба даведацца ў вучыцеля аб тваім „павядзеньні“

Сын. — „Ведаеш што, матачка, калі сапраўды хочаш зрабіць мне прыемнасьць, так лепш ня пытайся“.

## Адказы на задачы зьмешчаные ў № 1 „М. Ж.“

**Задача № 1.** 1) Пінск, 2) Менск.

**Задача № 2.** 1) Полацак
2) Менск
3) Ян Чачот
4) Беларус

## *Ад Рэдакцыі*

*Рэдакцыя „Маладога Жыцьця“, ад імя беларускай моладзі, прыносіць шчырую падзяку усім грамадзянам за ахвяры тыя ці іншыя на „Маладое Жыцьце“, а асабліва кс. Германовічу п. Рак Міхайлоускаму, Педагагічнай Радзе 1 В. Беларускай Гімназіі, і М. Нікіфараву за яго гарачы удзел у справе палепшаньня нашае часопісі з мастацкага боку. Матэрыяльная становішча часопісі — гэта адна з найбольшых нашых балячак, і тыя ахвяры якія складаець старэйшае грамадзянства і наша моладзь, даюць магчымасьць выдаваць часопісь і пашыраць культурна прасьветную працу на карысьць нашае Бацькаушчыны-Беларусі. Спадзеваемся і моцна верым, што і далей грамадзянства прыйдзе з дапамогай беларускай моладзі у справе выдаваньня сваей часопісі „Маладое Жыцьце“.*

*Сьпіс ахвяршчыкау рэдакцыя зьмесьціць у чародным нумары.*

P. S. *Усіх грамадзян жадаючых атрымліваць папярэднія нумары нашае часопісі, просім зьвяртацца ў рэдакцыю „М. Ж.“ (Вострабрамская № 9.) Цана асобнага № 100 мар.*

# Свая пошта.

Самахвалу з Запольля. Ліст атрымалі. Прысылайце карэспандэнцыі і пашырайце часопісь.

Клімовічу ў Празе. Лісты атрымліваем. Прысылайце матэрял.

Супрацоўнікам „М. Ж.". Рэдакцыя просіць сваіх супрацоўнікаў, каб перад пасыланьнем сваіх твораў, старанна апрацаваць іх, а таксама пісаць выразьней і то, тольki на адным баку аркушу паперы.

Рэдактар-выдавец Аляксандар Пусько.

**Цана асобнага нумару 100 марок.**



Адрэс Рэдакцыі: **WILNO, ul. Ostrobramska Nr. 9**

Друкарня «ДРУК», Субач, 2